# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 35 (49) 5—11 лістапада 1993 года Кошт 25 рублёў

**ВЯРХІ КРУЦЯЦЬ,** нізы сьпяць. Развагі неабыякавага чалавека.

Барацьба з комплексамі **СВАЕЙ НАЦЫІ.** Гутарка з літаратарам Томасам Венцлавам.

«Нямеччына мне надалася Вавалонам». **АПОВЯД ЭМІГРАНТА.**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Памяці Міхася Ткачова

31 кастрычніка а 13 гадзіне па праспэкту Будаўнікоў, 27 сабраліся людзі. З кветкамі, сьцягамі, сьвечкамі. Сюды прыйшлі гарадзенцы, каб ушанаваць памяць сапраўднага чалавека, грамадзяніна, беларуса, навукоўца, грамадзкага і палітычнага дзеяча — Міхася Ткачова, які аддаў усе свае сілы, веды, здароўе, сваё жыцьцё дзеля таго, каб адраджалася і квітнела яго Бацькаўшчына, наша Радзіма — Беларусь.

На доме па праспэкту Будаўнікоў, 27, дзе жыў М. Ткачоў, у гэты дзень адкрывалі памятную дошку з нагоды гадавіны сьмерці нашага выдатнага земляка. Зарганізавалі ўрачыстасьць сябры Гарадзенскай філіі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады, якую ў свой час адрадзіў Міхась Ткачоў.

Шмат цёплых добрых слоў гучала ў гэты дзень памяці выдатнага незвычайнага чалавека. Слова бралі гарадзенцы і госьці, якія прыехалі, каб ушанаваць яго памяць: М. Патрэба, А. Мілінкевіч, Г. Семянчук, А. Сідарэвіч, А. Латышонак, З. Пазьняк і іншыя. Гучалі песьні ў выкананьні хору «Паходня». Асьвяціў памятную дошку сьвятар Каложскай царквы — айцец Анатоль.

Яшчэ раз дзякуй тым людзям, якія адгукнуліся на зварот БСДГ і пералічылі пасільную суму грошай на памятную дошку: НВП «Вэктар», МП «Дзежыц», МП «Васілёк», вабласное аддзяленьне Беларускага фонду культуры, прафсаюз прадпрымальнікаў «Ліга», прадпрымальнік Сьмірноў, адвакат М. Хвесеня і многія іншыя.

Памятную дошку выканаў мясцовы скульптар Уладзімер Панцялееў.

**(М. К.).**

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**



### Да ўвагі прыхільнікаў вуніяцкай царквы на Беларусі!

Набажэнствы для вернікаў вуніяцкай царквы праходзяць штонядзельна ў памяшканьні ГДК, а 15 гадзіне.

Сардэчна запрашаем!

**Сябра вуніяцкай суполкі Горадні спадар**

**Мікола ВОРАН.**

## Весткі з Польшчы

### Аварыя на шахце «Вікторыя»

Днямі на вугальнай шахце «Вікторыя» бліз польскага горада Валбжых здарыўся абвал вугальнага пласта. У выніку чацьвёра шахцёраў апынуліся засыпанымі лавай. Прыбыўшыя на месца аварыі ратаўнікі адкапалі пацярпеўшых.

На жаль, двое з вырataваны памерлі ў шпіталі. Акцыя паратунку й лакалізацыі аварыі працягваецца.

### Трагічныя гульні непоўнагадовых

Дарожна-паставая служба міліцыянтаў Польшчы забіла трывогу аб тым, што на дарогах 15—16-гадовыя падшпаркі распачалі гульню пад назовам «У каго мацнейшыя нэрвы». Юнакі кладуцца на размеркавальны пас дарогі й такім шляхам выпрабоўваюць моц нэрваў вадзіцеляў.

Ня вытрывалі нэрвы ад такога выпрабаваньня некалькіх вадзіцеляў, якія скіравалі свае машыны ў кювэт.

На жаль, сярод ахвяраў гульні няпоўнагадовых аказалася дзьве машыны хуткай дапамогі.

### «Ягелёнія» імкнецца гуляць у беларускім чэмпіянаце

Беластоцкаму футбольнаму клюбу «Ягелёнія» лепей гуляць у футбольным чэмпіянаце Беларусі — заявіў адзін з кіраўнікоў гэтага клюбу, які дарэчы, пажадаў, каб яго імя засталося Інкогніто. Да гэтай высновы кіраўнік беластоцкага клюбу прыйшоў нядаўна. Ён лічыць, што ўзровень польскага футболу значна панізіўся і гэтая тэндэнцыя будзе працягвацца яшчэ доўга. Футбольны чэмпіянат Беларусі наадварот прагрэсіруе. Таму, каб беластоцкаму футболу не застацца на задворках футбольнай Эўропы пажадана зрабіць гэты крок як мага раней.

**Г. У.**

## Віленскія паведамленьні

### Тэатр абсурду

Летува, відавочна, пасьпяшалася, абвясьціўшы візавы рэжым для грамадзянаў СНД з 1-га лістапада. Да 1-га ліпеня 1994 года прынята адтэрміноўка. Можна будзе прыяжджаць па запрашэньню, зробленым жыхаром Летувы, бяз візы. Блянк запрашэньня будзе друкавацца на адмысловай паперы з вадзянымі знакамі. Але ўрад рэспублікі да гэтае пары яшчэ ня вызначыў платы за афармленьне такога запрашэньня. Ды й самыя блянкі яшчэ не гатовыя. Яшчэ толькі абвешчаны конкурс на іх вытворчасьць. Цікава, што будзе рабіцца на летувіскіх межах 1-га лістапада?

### Патрапіў у няміласьць

Парлямант зьняў з пасады старшыню Банку Летувы Р. Вісакявічуса. Яму прад'яўленыя абвінавачаньні ў разбурэньні сістэмы ўзаемаразьлікаў, у расхістаньні курсу літа адносна СКВ, у памылковай манэтарнай палітыцы, у злоўжываньні службовым становішчам. Непасрэднай нагодай для адстаўкі паслужыў скандал з незаконным «падарункам» 20-ці мільёнаў літаў ад дзяржаўнага банка аднаму прыватнаму банку. Заслуга Р. Вісакявічуса — ўвод нацыянальнай валюты — на рашэньне дэпутатаў не паўплывала.

Дарэчы, сёньня курс даляра і літа такі: скуп — 3.90 літа, продаж — 4.05 літа за даляр.

**В. С.**

## Зіма надыходзіць

**«Камунальныя паслугі ад пачатку гэтага месяца павялічыліся ў дзесяць разоў. За гарачую ваду зараз даводзіцца плаціць на адну асобу 425 рублёў у месяц, а яна павінна быць не ніжэй 60°С. Аднак з крана цячэ вада, тэмпература якой не вышэй 20°С, а плаціць даводзіцца ледзь не за кіпень. Калі ў краме набываюць хлеб, за палову буханкі плацяць у два разы таньней, чым а цэлую, а тут — усё адно».**

**(З тэлефоннай скаргі ў рэдакцыю).**

Безумоўна, нашы чытачы маюць рацыю. Ды і больш таго, як правіла, тэлефануюць пэнсіянэры, у якіх кожны рубель невялічкай пэнсіі на ўліку. І вельмі прыкра чуць ад іх аповяды, як супрацоўнікі ЖЭСаў да іх запатрабаваньняў ставяцца абыякава, а падчас і проста груба.

Склаўшымся становішчам мы пацікавіліся ў начальніка ЖЭСа № 14 Горадні, з раёна якога найболей тэлефанавалі. Як высьветлілася, аб такім становішчы кіраўніцтва ЖЭСа ведае і прымае пасьпешныя меры, каб яго выправіць. Дарэчы, праблемы з гарачай вадой толькі ў жыльцоў верхніх паверхаў. Праўда, нам паабяцалі, што з гэтае нагоды будуць ладзіцца спэцыяльныя праверкі, складацца акты, па якіх аплата за гарачую ваду ў такіх выпадках павінна перагледацца.

Што ж, раім жыльцам яшчэ раз настойліва зьвярнуцца ў свой ЖЭС за пераразьлікам аплаты, але лепей было б, як мага хутчэй атрымаць гарачую ваду і ціха зімаваць за поўны кошт.

**М. ЖЫЛЕЎСКАЯ.**

## ЗАЯВА
## прадстаўнікоў Сходу беларускіх арганізацый Масквы

Камуністычная хэўра ў Маскве зноў пажадала крыві і гарматнага мяса, зноў вырашыла захапіць узброеным шляхам уладу, але ў яе нічога не атрымаецца, хоць на жаль на Беларусі па-ранейшаму кіруе этнінацыяналны пракамуністычны ўрад Кебіча, па-ранейшаму Беларусь зьяўляецца запаведнікам камунізму, па-ранейшаму на вуліцах беларускіх гарадоў застаюцца помнікі камуністычным бонзам і камуністычна-савецкія лёзунгі і шыльды, па-ранейшаму выдаюцца «Савецкая Беларусь» і іншыя камуністычныя выданьні антыдэмакратычнага і антыдзяржаўнага зьместу, афіцыйна дзейнічаюць Партыя камуністаў Беларусі і іншыя камуністычна-антыдзяржаўныя групоўкі тыпу «Славянскага сабору».

Надышоў час скону камуністычнай мафіі! Заклікаем усе дэмакратычныя і патрыятычныя партыі і рухі ўзмацніць агульныя намаганьні па знішчэньню камуністычнай мафіі на Беларусі! Урад Кебіча і Вярхоўны Савет, у якім кіруе камуністычная большасьць, павінны пайсьці ў адстаўку. Павінны адбыцца шматпартыйныя выбары без удзелу камуністаў і «славянскіх сабораў» у вышэйшы Беларускі Сойм. Побач з братэрскай дэмакратычнай Расеяй павінна быць дэмакратычная Беларусь, у якой не будзе месца «чырвона-карычневым».

Маскоўскія беларусы прымалі ўдзел у барацьбе супраць путчу ў жніўні 1991 года і супраць чырвона-карычневай хеўры ў верасьні-кастрычніку 1993 году. Пры неабходнасьці гатовы дапамагчы любай Бацькаўшчыне ў любы момант. Хай жыве і квітнее незалежная і дэмакратычная Беларусь! За нашу і вашу свабоду!

**Прынята на сходзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Масквы.**

**5 кастрычніка 1993 года.**





# *ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА*

# Вярхі круцяць, нізы сьпяць

«Частная собственность — главное обудие эксплуатации человека человеком!» — асноўная формула з «Маніфэсту» Маркса, з якой камуністы-бальшавікі зрабілі выснову дзеля пабудовы міфічнага камуністычнага грамадзтва: «Пазбавіць Чалавека ўласнасьці!» Сюды ўкладваецца ўвесь марксізм-ленінізм з яго «Экспроприацией экспроприаторов» (гэта значыць — «рабуй нарабаванае»), што выцякае з марксавага вучэньня «О прибавочной стоимости». Такім чынам, нікому не дазвалялася быць прыватнымі ўласьнікамі, акрамя тых, хто паставіў сябе кіраваць гэтай дзяржавай рабоў. Ім належала ўсё і ўсе. Ці магчыма кіраваць рабамі дэмакратычным шляхам? Ясная справа — немагчыма: «Законы в переходный период имеют временное значение и потому, когда они противоречат развитию революции, они либо отменяются, либо заменяются».— Ленин. Вось адсюль і яго фармулёўкі.

**Фармулёўка 1:** «Государство, милые друзья, есть аппарат насилия одного класса над другим».— Гэта азначае падзел грамадзтва па сацыяльных прыкметах (адносіны да ўласнасьці на сродкі вытворчасьці) з вынішчэньнем уласьнікаў (бальшавізм). Падзел жа грамадзтва па нацыянальных прыкметах з вынішчэньнем «ніжэйшых» нацыяў — фашызм.

Адсюль можна сёньня лёгка бачыць і «чырвоных», і «карычневых». Тут, увогуле, невядома, хто кім кіруе. Гэта дзьвюадзіны хаўрус. Яны заяўляюць аб адзінстве «славянскай нацыі» ў згуртаваньні вакол «славянскай» Расеі. Як мне вядома, «славянскасьць» Расеі заканчваецца там, дзе пачынаюцца Татарстан, Калмыкія, Мары, Комі, Тува і г. д. Як паставяцца гэтыя нацыі да таго, што іх расейскія шавіністы залічылі славянамі? Расейскі «славянскі» шавінізм стаіць ад фашызму на крок, а ад грамадзянскае вайны на паўкрока.

Дык пра якіх жа «славян» вядзецца размова ў шавіністаў, калі пытаньне стаіць аб адраджэньні ўсіх нацыяў? Відавочна, што ізноў хочуць абсядлаць усе народы пад «мудрым» кіраўніцтвам КПСС. Спадзяванка ў іх адна — людзі не разьбіраюцца і не разьбяруцца ў гэтай кругаверці, што да чаго, і самаходзь апынуцца ў былым ярме.

Нядаўна езьдзілі ў Расею і былі на прыёме ў Хазбулатава дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі тт. Лукашэнка, Казлоў, Скарынін, Іван Трусаў. Вырашылі «эканамічныя» пытаньні ад імя пракамуністычнай большасьці — групы «Беларусь» у Вярхоўным Савеце. Хто ж такі Хазбулатаў? Да каго імкнуліся гэтыя «славяне»? Каго ўзначальваў «славянін» Хазбулатаў? Пракамуністычны Вярхоўны Савет Расеі! Чаму ж шчэмяцца так у хазбулатаўскую Расею камуністы, якія зараз кіруюць рабамі на Беларусі? Яны ведаюць, што беларус на беларуса і, увогуле, тутэйшыя не палезуць у бойку за іх камуністычныя інтарэсы. Тут патрэбныя байцы з іншых рэгіёнаў, «славяне» з Казахстану, Таджыкістану ды іншых месцаў, а там — патрэбныя нашы хлопцы. Вось тады будзе бойка. Так было заўсёды ў СССР. Гэта служыла асновай «брацтва» і «дружбы» ўсіх народаў імпэрыі. Нядзіўна цяпер, што наш беларускі нэйтралітэт і незалежнасьць Украіны сталі камуністам-шавіністам упоперак горла.

**Фармулёўка 2:** «Демократия — есть форма государства» — гэта азначае, згодна Леніну, — хто пры ўладзе — такая і дэмакратыя. Пры ўладзе буржуазіі — буржуазная дэмакратыя. Пры ўладзе Саветаў — дэмакратыя дыктаруры пралетарыяту на чале з бальшавікамі (савецкая дэмактарыя). Дапаўняе гэтую фармулёўку наступная: «Демократия — есть диктатура большинства над меньшинством». (Якая ўжо тут «демократия», калі меньшасьць не мае ніякіх правоў). Тут «первая демократия» ніяк не стасуецца з «другой», бо ў Расейскай імпэрыі налічвалася каля 3-х мільёнаў пралетарыятаў, што складае каля 1,5% агульнай колькасьці насельніцтва. Як ні круці, усё гэта прыдумана дзеля апраўданьня захопу ўлады ў 1917 годзе. Згодна гэтай тэорыі фашызм гітлераўскай Гэрманіі таксама быў дэмакратыяй як форма дзяржавы. Фашызм асуджаны міжнароднай супольнасьцю, тэарэтыкі і заправілы пакараныя. Камуністы ж у нас працягваюць прапаганду сваёй антычалавечай тэорыі, хаваючыся пад аблічам «социальной справедливости», «рабочего движения» і т. п.

Аб якой «справедливости» імі вядзецца гаворка? Схэматычна гэта выглядае так:

1. Стварыць такую сістэму заканадаўства і разьмеркаваць сваіх людзей так, каб было магчыма кіраваць толькі зьверху, абмінаючы народ.
2. Спачатку абрабаваць усіх інвалідаў, пэнсіянэраў, вэтэранаў, абясцэніўшы ўклады ў ашчадбанку, а потым абараняць «неимущих» і крычаць аб гэтым на кожным вуглу, робячы выгляд добрых дзядзькоў.
3. Захаваць усімі сіламі сістэму Саветаў як аснову бальшавізму. (Советы — для борьбы, но не для государственной власти!» — Ленін).
4. Пастаянна ствараць крытычныя сітуацыі, а потым накіроўваць усе намаганьні на выпраўленьне становішча (справы з нафтай, газам, харчаваньнем, гарэлкай, бітвы за ўраджай і г. д.).
5. Дэзінфармаваць людзей па ўсіх магчымых накірунках.
6. Пусьціць на самацёк рост злачыннасьці, асабліва сярод моладзі.
7. Стымуляваць скрытае безпрацоўе, пры поўным развале эканомікі, калі ўсім трэба рабіць ды рабіць.

Вось, напрыклад, асушылі Палесьсе, засеялі збажыну, бульбу, а тут затапіла ў дождж, і не раз ужо. Ну, сапраўды, хто б мог падумаць, што былое балота можа затапліваць!? Дзе ж, маўляў, бачылі, каб нізіну затоплівала вадой, магчыма гэта на ўзгорках. Зараз ідзе кампанія па выратаваньню ўраджаю і людзей. Колькі хватаў нагрэюць на гэтым рукі. А бабулькі на Палесьсі застануцца ні з чым. Аналягічна з Чарнобылем: ну хто мог ведаць, што нельга праводзіць экспэрымэнты на жывых людзях!? Людзі маўчаць — усё сьпішацца.

Так было з 1917 году і так будзе, пакуль людзі не зразумеюць — што такое камунізм, камуністы, іхняя намэнклятура, іхняя палітыка, «эканоміка», улада і кіраваньне.

**Рыгор КУКСАЎ,**
**сябра БСП і БНФ.**
**г. Менск.**

# УХВАЛЫ

## Канфэрэнцыі некамуністычных і антыімпэрскіх сілаў Беларусі 16 кастрычніка 1993 г.

### *1. Пра стварэньне пераходнага кааліцыйнага ўраду і новыя выбары*

Урад і Вярхоўны Савет Беларусі вычарпалі сябе. Канструктыўных ідэяў дзеля выйсьця з крызісу яны не вылучаюць, у той жа час ігнаруючы слушныя прапановы дэмакратычных арганізацыяў і спэцыялістаў. Усе ініцыятывы ўраду зводзяцца да марных спадзяваньняў на асаблівае спрыяньне Расеі, дзеля чаго ён гатовы адмовіцца ад незалежнасьці. Але далейшы адклад непазьбежных рэформаў толькі падаўжае пакуты людзей, ускладняе правядзеньне рэформаў у будучыні.

Нашыя палітычныя, грамадзкія і прафсаюзныя арганізацыі, якія стаяць на некамуністычных, антыімпэрскіх пазіцыях, прадстаўляюць значную частку грамадзянаў Беларусі. Мы адчуваем адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны і гатовыя да палітычных захадаў дзеля захаваньня беларускай дзяржавы і пэрспэктывы выхаду з крызісу.

Мы патрабуем неадкладнай адстаўкі Савету Міністраў, які паказаў сваю няздольнасьць ажыцьцяўляць рынкавыя рэформы, кіраваць дзяржаваю і эканомікай. Мы выступаем за датэрміновыя выбары ў орган найвышэйшай заканадаўчай улады Беларусі паводле новага, дэмакратычнага выбарчага закону і падтрымліваем патрабаваньні аб адмене незаконнай пастановы Вярхоўнага Савету ад 29 кастрычніка 1992 г., якая забараніла рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах.

Гарантам правядзеньня вольных, дэмакратычных выбараў павінен стаць ПЕРАХОДНЫ КААЛІЦЫЙНЫ ЎРАД. Задача гэтага ўраду — не дапусьціць вакууму ўлады, развалу гаспадаркі, страты незалежнасьці Беларусі, захаваць грамадзкае паразуменьне ў краіне на час да новых выбараў, да сфармаваньня легітымнага парлямэнту і прызначэньня новага ўраду Беларусі.

Пераходны кааліцыйны ўрад павінен распачаць жыцьцёва неабходныя рэформы ў эканоміцы, у фінансава-крэдытнай сістэме, падатковай і бюджэтнай палітыцы, вырашыць пытаньне паліўна-энэргэтычнага забесьпячэньня. Гэты ўрад павінен мець структуру кабінэту (рады) міністраў: усе нелегітымныя надбудаваныя структуры цяперашняга ўраду, што пастаўлены над міністрамі (дзяржаўныя сакратарыяты, галіновыя аддзелы Саўміну) павінны быць зьліквідаваныя. Належыць удакладніць і зрэфармаваць сыстэму міністэрстваў і дзяржкамітэтаў з улікам іх мэтазгоднасьці.

Мы ўзгаднілі агульную структуру пераходнага кааліцыйнага ўраду, у які павінны ўвайсьці толькі кампэтэнтныя спэцыялісты, прадстаўнікі некамуністычных і антыімпэрскіх сілаў. Мы гатовыя да перамоваў наконт складу будучага кааліцыйнага кабінэту з усімі палітычнымі структурамі, якія стаяць на пазыцыях дэмакратыі і незалежнасьці дзяржаўнасьці Беларусі, а таксама з некаторымі прадстаўнікамі цяпершняга ўраду.

Такім чынам, мы прапануем Вярхоўнаму Савету рэальную праграму вываду краіны з палітычнага тупіка. І спадзяёмся, што ён выбера дастойны шлях сыходу з палітычнай арэны.

### *2. Пра абарону дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі*

Мы лічым незалежнасьць Беларусі абавязковаю ўмоваю, якая дае магчымасьць пабудовы дэмакратычнага грамадзтва, здаровай рынкавай эканомікі, забесьпячэньня правоў чалавека і неабходнай сацыяльнай абароненасьці асобы, захоўвае пэрспэктыву існаваньня і разьвіцьця беларускага народу. Аднак урад Беларусі і дэпутацкая большасьць у Вярхоўным Савеце робяць захады дзеля ўлучэньня Беларусі ў дзяржаўную сувязь з Расеяй і скасаваньня незалежнасьці нашай краіны. Урадавай прыхільнасьцю карыстаюцца сілы, якія адкрыта выступаюць за рэанімацыю камуністычнай імпэрыі.

Чарговая спроба камуністычна-фашыстоўскага путчу ў Маскве засьведчыла як марнасьць спадзяваньняў рэакцыйных сілаў у Беларусі на вяртаньне камуністычна-імпэрскага рэваншу, гэтак і пільную неабходнасьць мацаваць палітычную і эканамічную незалежнасьць Беларусі ў суседзтве з нестабільнаю краінаю, а таксама нэйтралітэт.

Абарона незалежнасьці нашай дзяржавы — гэта абарона інтарэсаў кожнага грамадзяніна Беларусі і наступных пакаленьняў.

### *Даручэньне*

Канфэрэнцыя даручае Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце зрабіць неабходныя захады для ажыцьцяўленьня прынятых рашэньняў і далейшых кансультацыяў арганізацый-удзельнікаў.

### *Рашэньне*

Дакумэнты, прынятыя Канфэрэнцыяй, адкрытыя для падпісаньня іншымі арганізацыямі, якія стаяць на некамуністычных, антыімпэрскіх пазыцыях.

## Арганізацыі-удзельнікі канфэрэнцыі

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»;
Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада;
Аб 'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі;
Беларуская сялянская партыя;
Жаночы Хрысьціянска-дэмакратычны рух Беларусі;
Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі;
Беларуская Хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць;
Партыя народнай згоды;
Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»;
Асацыяцыя Украінцаў Беларусі;
Саюз палякаў Беларусі;
Таварыства немцаў Беларусі «Адраджэньне»;
Беларуска-літоўскае задзіночаньне;
Беларуская каталіцкая грамада;
Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі;
Свабодныя прафсаюзы Беларусі;
Беларускі незалежны прафсаюз;
Беларускі прафсаюз прадпрымальнікаў «Форум»;
Прафсаюз работнікаў інавацыйных і малых прадпрыемстваў Беларусі;
Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў;
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны;
Рэспубліканскі Рух за тэрытарыяльнае самакіраваньне;
Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ (імя Л. Сапегі);
Гарадзкі фонд культуры;
Беларускі саюз каапэратараў;
Згуртаваньне Беларускай шляхты;
Асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій;
Задзіночаньне беларускіх студэнтаў;
Беларускае аб 'яднаньне прыхільнікаў агульначалавечых каштоўнасьцяў;
Скарынаўскі цэнтр;
Грамадзка-палітычнае аб 'яднаньне імя К. Каліноўскага;
Фонд духоўнага і інтэлектуальнага адраджэньня «Сакавік»;
Маладзёжная арганізацыя «Выбранецкія шыхты»;
Гарадзкі бацькоўскі камітэт г. Менска;
Гісторыка-пашуковы атрад «Пагоня»;
Клюб «Спадчына».

## «Отчеты и выборы»

Справаздачна-выбарчая раённая канфэрэнцыя ПКБ адбылася ў Шчучыне. Аб праведзенай рабоце адчытаўся другі сакратар А. П. Раманаў. Ён быў абраны першым лідэрам раённых камуністаў. Дарэчы, у мінулым меў стаж партработніка, зараз — гісторык. Выбраны новы райкам і яго сакратары.

**(Гр.)**





# ГРАМАДЗТВА

## Зноў з ідэялягічнай званіцы?

Мяркую, што многія прачыталі так званы «пункт гледжаньня» пад назовам «Беларусы з-за мяжы і тутэйшыя», надрукаваны ў «Звяздзе» 7 верасьня гэтага года. Аўтар — знакаміты Іван Іванавіч Антановіч. Дасьведчанаму чалавеку гэтае імя гаворыць шмат. Сёньня аўтар сьціпла падпісваецца доктарам філязофскіх навук, прафэсарам і на гэтым ставіць кропку. Хаця напрошваецца працяг — былы высокапастаўлены чын ЦК КПБ, пазьней — сакратар палазкоўскага цэка Кампартыі РСФСР. Жыў у Маскве. Аднак пасьля помных падзей жніўня 1991 года палічыў за лепшае ціха перабрацца назад у Беларусь. Цяпер Іван Іванавіч усё часьцей зьяўляецца на экранах менскага тэлебачаньня, яго допісы — у газэтах і часопісах.

Гэтае ўдакладненьне, лічу, неабходнае, каб адразу мець на ўвазе сьветагляд і пазіцыі доктара філязофіі. Як бы ён ні маскіраваў свае выказваньні, ні камуфляваў высокімі складам.— Сутнасьць застаецца нязьменнай: адданасьць камуністычнай ідэі, вернасьць ёй, спроба прапагандаваць марксізм-ленінізм у больш вытанчанай форме, нават не ўжываючы гэты тэрмін...

З артыкула цяжка вызначыць асноўную думку аўтара — пра што ж ён вядзе гаворку? Нібыта аналізуе вынікі I зьезда беларусаў сьвету, які адбыўся ў Менску сёлета. Аднак Іван Іванавіч часьцяком робіць адступленьні. Нібыта сьпяшаецца давесьці, што зьезд — пухта навяртая ўвагі, сабраліся, маўляў, нашы землякі, якія займаюць сьціплае месца «у сацыяльнай іерархіі», краін, дзе жывуць зараз.

Аб чым толькі не гаворыць доктар філязофскіх навук. Крытыкуе спадароў Шушкевіча і Краўчанку. Першы, бачыце, выказаўся, што дэмакраты на Беларусі процістаіць камуністычная ідэя. Міністр замежных спраў сумняваецца ў эканамічным саюзе з Расеяй. Як жа так! Пазіцыя міністра не супадае з пазіцыяй урада, лямантуе Іван Іванавіч. А чаму яна павінна абавязкова супадаць? Ці сп. Краўчанка парушае блізкі сэрцу прафэсара прынцып дэмакратычнага цэнтралізму? Дык азірніцеся навокал, шаноўны І. І. Антановіч. Цяпер на двары іншы час. Праўда, шматлікія члены былога КПБ яшчэ пры ўладзе, але самой партыі няма. Яе ж пераемніцы — партыі камуністаў Беларусі — яшчэ трэба заваяваць аўтарытэт у «масах». Але і тады наўрад ці захоча меньшасьць падпарадкоўвацца бальшыні. Гэта ў адносінах унутрыпартыйнага жыцьця.

Канешне, прафэсар філязофіі — гэта не прафэсар гісторыі. Бо апошні ніколі б так паверхоўна не адважыўся б развагаць над фактамі беларускай гісторыі пачатку 20-х гадоў. І нават не прыгадаў бы слова «Ідэялёгія». Тым больш сацыялістычная. Іван Іванавіч рашуча сьцьвярджае: магутная хваля беларускага культурнага адраджэньня 20-х гадоў была выклікана сацыялістычнай ідэялёгіяй. Ну, яму як партыйнаму ідэолагу нядаўняга мінулага тут і карты ў рукі. Але там, дзе ідэялёгія, там ужо няма гісторыі, бо аўтар няволна пачынае карыстацца марксісцка-ленінскай мэтадалёгіяй ацэнкі падзей. Гэта значыць, будзе паказваць толькі тое, што выгадна партыі.

І, сапраўды, непрыкметнае перадзёргваньне фактаў — і ўжо гучыць фраза: «... першая беларуская дзяржава... гэта была Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка». Вось так! На поўным сур´ёзе. Ні слова пра БНР, пра тое, што сабой уяўляла БССР тых дзён, як РСФСР гандлявала землямі Беларусі то з Летувою, то з Польшчаю. Дарэчы, гэты ганебны гандаль працягваўся ў 1939 і 1945 гадах. А Сталін нават у 1941 годзе, калі немцы стаялі над Масквой, у вялікай тайне прапаноўваў Гітлеру мір, аддаючы Гэрманіі Беларусь і Украіну. А калі б пагадзіўся?.. Сёньня шмат можна прачытаць пра беларускіх нацыяналістаў, прыдуманых хворай фантазіяй НКВД, нібыта яны хацелі адарваць Беларусь ад СССР, усталяваць капіталістычныя парадкі. Колькі людзей было расстраляна паводле гэтай устаноўкі. А тут гэнэральны сакратар ЦК ВКП(б) І. В. Сталін сам дабраахвотна аддае ладны кавалак сацыялістычнай Айчыны зацятаму ворагу славян...

Пра гэта, вядома, І. І. Антановіч ня згадвае. Ён жа філёзаф, а не гісторык, адкуль яму ведаць такую «драбязу». Напісаць праўду — значыць, наступіць на горла ўласнай песьні і прызнацца, што тое ж адраджэньне беларускасьці 20-х гадоў было выклікана не сацыялістычнай ідэяй, а нацыянальнай. І многія члены ўрада БНР вярнуліся на Радзіму не таму, што раптам захацелі будаваць сацыялізм. Проста склаліся такія абставіны, што Беларусь узначалілі нацыянальна сьвядомыя людзі, якія сапраўды памкнуліся бачыць родны край беларускім. Так яно і было напачатку. Але Масква ўглядзела ў гэтай палітыцы нябясьпеку. І тады пачалася разьня. Няхай бы Іван Іванавіч прыгадаў лёс Чарвякова, Галадзеда, Прышчэпава, акадэміка Жэбрака, Ластоўскага і тысяч іншых, пакараных сьмерцю. Не прыгадаў. Толькі выказаў дзяжурную фразу: «У тым тэроры гінулі і камуністы, і някамуністы». А хто той тэрор распачаў?..

Ня хоча прафэсар І. Антановіч прызнаваць Вялікае Княства Літоўскае беларускай дзяржавай сярэднявечча. Бачыце, беларускай дзяржавай яно нідзе ня ўспамінаецца ў летапісах, хроніках. Сур´ёзная прычына? Сьмешная. Але Івану Іванавічу можна прабачыць: ён жа не гісторык, а філёзаф. Праўда, з прэтэнзіямі на гістарычную дасьведчанасьць. Тады да яго пытаньне: чаму землі цяперашніх абшараў рэспублікі называліся Летувой і калі гэта была дзяржава летувісаў, то куды падзеліся апошнія? На добры розум, літоўцы па нацыянальнасьці павінны былі б складаць сёньня значны працэнт насельніцтва нашай краіны.

Яшчэ пытаньне. Чаму назва Беларусь была распаўсюджана па волі рускіх цароў спачатку на ўсю тэрыторыю так званага пасьля «Северо-Западного края». Няўжо шаноўнаму прафэсару невядома, што розныя часткі беларускай Летувы мелі назвы Белай Русі, Чорнай Русі, Чырвонай Русі. То чаму не Чорнарусь, не Чырвонарусь? Няўжо толькі таму, што Белая Русь была гэаграфічна бліжэй да Масквы? А мо, назваўшы нас белымі русамі, тым самым ужо царызм даваў сам сабе права прасоўваць свае экспансіўныя пляны на захад, прыкрываючыся казкамі пра абарону сваіх братоў? А калі братоў, то чаму падчас войнаў вынішчалі нас як ворагаў? Відавочна, каб мы заставаліся як нацыя ліцьвінаў (але не летувісаў!), то рускія цары і іх апрычнікі ставіліся б да нас паіншаму, як да тых жа палякаў, немцаў, чэхаў. Гэта значыць, прызнавалі б нашу дзяржаўнасьць і адметнасьць. Але гісторыя распарадзілася інакш...

Спрабуе доктар філязофскіх навук абараняць і палітыку ўрада. Маўляў, крытыкаваць лягчэй, чым працаваць. Гэта праўда. Але праца ўрада навідавоку. Мы сталі жабракамі, дзякуючы вялікім намаганьням паноў з міністэрстваў «рэарганізоўваць прамысловасьць, дабіваць пастаўкі бэнзіну і газы для ўборкі ураджаю» і г. д. У эканоміцы, бачна, Іван Іванавіч яшчэ слабейшы, чым у гісторыі. Ухваліць эканамічныя эксперыменты Савета Міністраў можа толькі чалавек, які жадае, каб нацыя згалела дашчэнту, каб утварылася рэвалюцыйная сітуацыя. А што, магчыма, аўтар подпісу і яго аднадумцы мараць пра сацыяльны выбух. Тады можна поўнымі сіламі вярнуцца да ўлады. Тады, як піша прафэсар, можна стварыць Беларусь з палітычным ладам, які паважае чалавека і заснаваны на дэмакратычных прынцыпах». Ці не зноў на прынцыпах дэмакратычнага цэнтралізму?

Мы абмежаваліся развагамі пра «адступленьні» І. Антановіча. І зусім не кранали яго погляду на беларусаў замежжа. Няма павагі да іх з боку аўтара. Можа, таму, што яны рашуча выказваліся за дэмакратычны шлях разьвіцьця рэспублікі, крытычна паставіліся да далейшай спробы ўкараняць на Беларусі камуністычную ідэю, так блізкую Івану Іванавічу. Думка доктара філязофскіх навук яскрава нагадвае прымаўку «Калі не з намі, то супраць нас». А гэта як заклік да пошуку ворагаў ва ўласнай хаце. Чаго тады вартыя развагі пра сувэрэнітэт, незалежнасьць.

«Цэкоўская» загартоўка адчуваецца ці не ў кожным сказе артыкула. Шпількі на адрас інтэлігэнцыі філялягічна-гістарычнага напрамку, распрацоўшчыкаў нацыянальнай ідэі, мэнтарскі тон — усё гэта з арсэналаў сродкаў прапаганды і агітацыі ЦК КПБ. Калі работнікі апарата Кампартыі такімі мэтадамі вялі работу і раней, то ня дзіва, што КПБ сышла з палітычнай арэны. Урэшце рэшт, і сам Іван Іванавіч міжволі выказвае думкі, у якія наўрад ці верыць. Напрыклад, калі ня згаджаецца, што на Беларусі камуністычная ідэя процістаяла нацыянальнай. Менавіта тады, у 20-х, камуністычная ідэя задушыла нацыянальную. Стаць у позу нявідушчага, значыць, наўмысна звадзіць людзей у зман альбо рабіць гэта ў імя дасягненьня пэўнай мэты.

Якой?

**В. ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат вабласнога Савета, палітолаг.**




*Навіны Нацыянальнага Банку.*
*Малюнак С. ХАРЭЎСКАГА.*

## Замест роднай мовы — замежная

Згодна з п. 4.2. «Канвэнцыі аб асноўных правах эўрапэйскіх этнічных груп» (Жэнэва, ліпень 1991 г.) абавязковай для вывучэньня ў школах зьяўляецца толькі дзяржаўная мова, якой у Рэспубліцы Беларусь, прынятай Дэклярацыяй «Аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі», зьяўляецца беларуская мова.

Аднак у артыкуле 24 «Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і пункце 2 разьдзела III «Дзяржаўнай праграмы разьвіцьця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў» устаноўлена абавязковасьць вывучэньня рускай мовы, якая зьяўляецца мовай адной з нацыянальных меншасьцяў у Беларусі. Гэта зьяўляецца пацьверджаньнем перавагі і прывілеяў у адносінах да адной з нацыянальных меншасьцяў у Беларусі — рускай.

Адным з палажэньняў прынятай «Дэклярацыі праў і свабод чалавека» зьяўляецца тое, што «ніякія асобы, сацыяльныя слаі і групы насельніцтва ня могуць карыстацца перавагамі і прывілеямі, якія пярэчаць закону».

Аднак менавіта гэтыя перавагі і прывілеі закладзены ў «Закон аб мовах у рэспубліцы Беларусь» і «Дзяржаўную праграму разьвіцьця...», што пярэчыць як палажэньням «Канвэнцыі аб асноўных правах эўрапэйскіх этнічных груп», «Дэклярацыі праў і свабод чалавека», так і артыкулам 32, 34 і 171 Асноўнага Закона, дзейнічаючага ў Рэспубліцы — Канстытуцыі Рэспублікі. Ва ўмовах заканадаўча замацаванай абавязковасьці вывучэньня дзяржаўнай, рускай і замежнай мовы, для прадстаўнікоў польскай нацыянальнай меншасьці ў Беларусі неабавязковай для вывучэньня аказалася родная польская мова, што супярэчыць нормам міжнароднага права і зьяўляецца ускосным агранічэньнем правоў палякаў у Беларусі, аб недапушчальнасьці якога і гаворыцца ў «Дэклярацыі правоў і свабод чалавека».

Адным з пацьверджаньняў гэтай высновы зьяўляецца сітуацыя, калі у 60% выпадкаў польская мова вывучаецца не як прадмет, а пасьля заняткаў, факультатыўна, калі замест зацікаўленасьці ў рашэньні праблем адраджэньня польскай мовы відаць скрытае, а часта і яўнае процідзеяньне.

«У новай свабоднай Беларусі мы павінны зрабіць усё для таго, каб не дапусьціць якой небудзь дыскрымінацыі па нацыянальнай адзнацы»,— сказаў у адной са сваіх заяў Старшыня СМ В. Ф. Кебіч.

Адным з крокаў у дасягненьні гэтай высакароднай мэты будзе ўнясеньне зьмен у «Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і «Дзяржаўную праграму» разьвіцьця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў» — выключэньне абавязковасьці вывучэньня рускай мовы прадстаўнікамі іншых нацыянальных меншасьцяў.

**Тадэвуш ГАВІН,**
**старшыня Саюза палякаў Беларусі.**

# ЭМІГРАЦЫЯ

## «Нямеччына мне падалася Вавілонам»

Некалі Ларысу Кравец камсамольскія лідэры за жаданьне ад 'ехаць ў замежжа назвалі здрадніцай. Сёньня, пасьля доўгага адлучэньня ад Радзімы Ларыса ў час непрацяглай пабыўкі завітала да рэдакцыі «Пагоні».

**— Ларыса, як сталася, што Вы трапілі да Нямеччыны!**

— Ведаеце, гэта лёс. Ці, можа, памылкі юнацтва — вызначыць складана. Але сталася менавіта так, што болей за дзесяць год я жыву ў Нямеччыне й, дарэчы, не шкадую аб гэтым. Калі ж з вамі пачалася вельмі шчырая размова, то дадам, што ў 1975 годзе я выйшла замуж за маладога лейтэнанта Савецкай Арміі. Мой муж атрымаў накіраваньне на службу ў горад Фрунзе. Але нешта ў нашым сумесным жыцьці не ладзілася. Пасьля разводу вяртацца ў Гародню да бацькоў не пажадала. Уладкавалася на працу на дывановы камбінат, атрымала інтэрнат і зажыла. На маладзёжнай вечарыне пазнаёмілася з Вальдэмарам, бацькоў якога з Паволжа ў 1942 годзе вывезьлі да Кіргізіі ўпаўнаважаныя НКУС. Сяброўства з Вальдэмарам перарасло ў каханьне з вясельлем. Жыць у краіне, дзе кватэру трэба чакаць дзесяткі год і атрымоўваць 15 рублёў заробку, вельмі цяжка. Таму я падтрымала думку Вальдэмара аб пераездзе нашай сям 'і на гістарычную Радзіму. Весьці аповяд пра цяжкасьці атрыманьня выязных візаў не жадаю, бо на гэтую справу зыйшло некалькі год жыцьця, а колькі гэта каштавала мне з мужам здароўя — зараз ня вылічыш нічым. Адным словам, у 1981 годзе з маскоўскага аэрапорту Шарамецьева-2 я з мужам і з дзіцем на руках пакінула Савецкі Саюз. Думала — назаўжды, але вось сёлета пасьля стольніх гадоў разлукі наведала бацькоўскі дом. Праўда, ад сустрэчы з любым горадам у душы зьявіўся боль.

Па-першае, прыехаўшы ў родны дом, я не застала ў ім бацьку, ён памёр у 1989 годзе. Так і не дачакаўся дачкі, не папесьціўшы на руках уласных унукаў. Па-другое, мяне вельмі ўразілі перамены ў душах людзей. Некалі гэтыя ж людзі называлі мой ад 'езд здрадай. Зараз яны прыходзяць да маёй маці і просяць мой адрас.

**— Дзеля чаго яны гэта робяць!**

— Усе наведвальнікі кватэры маіх бацькоў робяць такія заказы з нагоды пераехаць у Гэрманію. Можа, яны спадзяюцца пры дапамозе Вальдэмара атрымаць працу? Ня ведаю, што ім трэба. Таму пакуль што свой прыезд на бацькаўшчыну трымаю ў сакрэце, бо не жадаю глядзець на зайздросныя твары сяброў дзяцінства, адказваць на прывэнтыўныя пытаньні накшталт: як жывеш, якую маеш працу, кватэру, легкавік і многае іншае. Я проста спакойна хачу пахадзіць па Гародні, ўспомніць дзяцінства і школьныя гады.

**— Ну і якія ўяўленьні ад сустрэчы з «краінай дзяцінства»!**

— Самыя добрыя, асабліва калі я наведала садок, у якім выхоўвалася, школу, новы парк, дзе разам з аднакласьнікамі садзіла дрэвы, кусты.

**— А як Вас сустрэла гістарычная Радзіма Вальдэмара!**

— Раней я ўяўляла Нямеччыну як краіну бавэрэ, імпэрыю піва і зусім як неэкзатычную дзяржаву. Але зышоўшы з трапу самалёту ў Дзюсельдорфе, адразу адчула, што трапіла ў нешта незвычайнае. Было ўражаньне, што быццам бы мы з мужам апынуліся ў старажытным Вавілоне. Натоўпы людзей, якія размаўляюць зусім не па-нямецку, здаваліся мне нечым надзвычайным і дужа агрэсіўным.

**— Што гэта, мясцовыя расісты ці якія-небудзь іншыя нацыяналістычныя групоўкі!**

— Якія там нямецкія расісты, хоць людзей з такімі поглядамі хапае сярод немцаў. Наадварот, у Нямеччыне хапае эмігрантаў з Балканаў, Блізкага Усходу. Але больш за ўсё тут туркаў, яны працуюць на заводах, фабрыках, нават спрабуюць распачаць сваю справу. Праўда такое не заўжды ўдаецца, але многія спрабуюць.

**— Як жа распачыналі вы!**

— Нам было лепей, у Нямеччыне нас чакалі сваякі мужа й дапамога ад ураду, потым крэдыт ад мясцовага кіраўніцтва зямлі Вэстфалія. Увогуле я вельмі ўдзячна сваякам мужа, бо яны нас паўсюдна апекавалі, давалі парады і многае іншае. А мець сваякоў на чужыне і мець добрую параду, дапамогу — гэта істотнае вырашэньне многіх праблемаў.

**— Якія праблемы найбольш турбуюць эмігранта на зямлі Гётэ!**

— Самае галоўнае — не трапіць у сьпісы сям 'і з абмежаваным інтэлектам — гэта, лічы, канец усім спадзеўкам на кар 'еру ці на крэдыт у банку. Наўзамен — прасьцейшая праца, малы заробак, і ў лепшым выпадку — дапамога ад дабрачынных арганізацыяў. Менавіта так і існуюць выхадцы з азіяцкага кантынэнту, на рахунак дабрачыннасьці й маленькія заробкі. Але ім і гэта, што з неба манна.

**— Твой муж і ты — маеце добрую працу і заробак!**

— Што тычыцца працы, то працуе толькі муж, а пра заробак немцы ня любяць разважаць, так што дазвольце не кранацца і мне гэтай тэмы. Скажу толькі, што заробку Вальдэмара хапае, каб мець у сям 'і два легкавікі, свой уласны дом і штогод адпачынак на Гаваях.

**— Што б Вы маглі параіць тым, хто зьбіраецца на сталае жыцьцё ў замежжа, ці хоць на непрацяглую працу!**

— Каб добра пачуваць сябе на эміграцыі, кожны жадаючы паехаць ў замежжа павінен умець працаваць, ведаць традыцыі і культуру той краіны, ў якой ён хоча знайсьці для сябе другую Радзіму.

Распытваў Г. АСТРОЎСКІ.

## Паляшук-асілак

Усталяваньне польскай акупацыйнай улады на Палесьсі ў значнай ступені абмежавала сацыяльныя правы праваслаўных палешукоў. Каб адчуваць сябе годна, некаторыя з іх пачалі браць каталіцызм. Але былі й такія, хто не мяняў свае веравызнаньні і, набыўшы білет, ад 'язджаў назаўжды за акіян да Амэрыкі.

Мікола Валюк таксама ня вытрываў прыцясьненьня. Прадаўшы частку бацькоўскага маёнтка, ад 'ехаў. На жаль, да Амэрыкі эмігрант даехаў якраз тады, калі канчаўся сэзон вярбоўкі. Большасьць фірмаў, якія вярбавалі працоўную сілу на лесанарыхтоўкі сельскагаспадарчыя працы, зачынялі свае канторы. Самастойна ж знайсьці працу было вельмі цяжка. Мікола без сэнсу бадзяўся па Новым-Ёрку, здабываючы сабе на існаваньне шляхам выпадковых работ ці паслуг. Начаваць прыходзілася часам нават на вуліцы. У час адной з такіх начовак, на лаве партовага сквэру яго моцна пабілі бандыты за тое, што ён адмовіўся даць за начлег некалькі цэнтаў. Змардаванага хлопца знайшоў начны патруль паліцыянтаў, які адвёз небараку на пастарунак. Немалады палісмэн, спрабуючы высьветліць паходжаньне пацярпеўшага, зьвяртаўся на ангельскай, а потым на гішпанскай мовах. Але ў адказ Мікола адмоўна матляў галавой. Палісмэн зьвярнуўся, нарэшце, да хлопца па-беларуску. Узрадаваны Мікола аж ўсхапіўся з месца і ў адзін момант распавёў усё пра сябе. Палісмэн на хвіліну задумаўся, а потым, ветла пастукаўшы па плячох Міколы, згадаў, што дапамажа ў бядзе земляку. Свайму шчасьцю Мікола ня даў веры. Тады палісмэн патлумачыў, што яго бацькі таксама з Палесься — з Ляхавічаў. Казаў палісмэн і пра тое, што з Радзімы да яго трапляюць лісты сваякоў, у якіх тыя скардзяцца на цяжкае жыцьцё.

Напрыканцы размовы палісмэн напісаў невялічкую запіску і падаў яе Міколе, згадаўшы: тут адрас майго сябра, які трымае непадалёк горада сельскагаспадарчую ферму. Таму Міколе як вясковаму жыхару гэта больш падыходзіць. Даехаць жа на ферму можна цягнікам — пэшшу ісьці будзе далёка.

Прадаўшы за даляр свае ялавыя боты, Мікола купіў білет і басанож даехаў да патрэбнага месца.

Гаспадар, прачытаўшы запіску, аднёсься да Міколы ветла. Даведаўшыся, што Мікола з Беларусі, расказаў і пра сябе. Гаспадар паходзіў са Львоўшчыны.

Вечарам, калі гаспадыня падала на стол вячэру ў талерках, Мікола, дастаўшы з-за пояса драўляную лыжку, паспрабаваў чэрпаць ёю з талеркі. Але ў тоўстую драўляную лыжку мала што трапляла. Мікола з такой недарэчнасьці не разгубіўся, ўзяў дый выпіў з талеркі ўсю страву. Гаспадыня, убачыўшы такое, сказала мужу, што гэты хлапец аб 'есьць ім косьці. Гаспадар жа ўсьміхнуўся і адказаў жонцы: маўляў, няхай сабе есьць, бо гэты ж беларус здаровы, як вол, які і пацягне на працы за вала.

Мікола апраўдаў спадзеўкі гаспадара, спраўляючыся з усімі палявымі працамі без дапамогі. Часам, каб паказаць сваю сілу, Мікола на вачох гаспадароў падымаў вялізныя каменьні ці, браўшыся аберуч за падругу, на цэлы метар увышкі ўздымаў адрыну. Каб падзівіцца на асілка, на ферму прыяжджалі госьці. Падпіўшы, яны пачыналі спаборніцтвы з Міколам. Звычайна рабілася гэта так: Мікола ставаў пасярод пакоя, а госьці спрабавалі скрануць яго з месца. Бывала й так: гаспадар прыносіў вялікія кашы, у якія садзілася па некалькі жанчын, Мікола, ўзяўшы па кашу, падымаў іх на выцягнутыя рукі.

Слава пра Міколу разнеслася далёка. Аднойчы на ферму прыехаў агэнт Наваёрскага цырку. Паглядзеўшы на каменьне, якое лёгка ўздымаў рабочы фэрмы, агэнт запрапанаваў яму працу ў цырку. Гаспадар ня пярэчыў, і праз пэўны час Мікола ад 'ехаў на выпрабаваньні.

Наваёрскі цырк сустрэў Міколу прыхільна. Рэжысёр распрацаваў яму праграму, у якой палескаму асілку даводзілася падымаць на плячох колы ад цягніка або дужацца на арэне з медзьвядзём.

Наваёрская публіка з задавальненьнем прыходзіла паглядзець на асілка, асабліва ёй падабалася дужаньне чалавека з медзьвядзём, дзе пасьля зацятай барадзьбы праўграўшую жывёлу нярэдка даводзілася ўтаймоўваць вадой. У адной з такіх схватак мядзьведзь драпануў свайго сапэрніка па вачох. Ўратаваць зрок Міколе лекары не змаглі. Існаваць сляпым на невялікую рэнту ад адміністрацыі цырку было вельмі цяжка. Жыцьцё сляпога й адзінота давялі палешука да адчаю. І ў 1932 годзе Мікола Валюк скончыў жыцьцё ў сваёй наваёрскай каморцы самагубствам.

**Па аповядах аднавяскоўцаў, нататкі пра лёс палескага асілка на эміграцыі М. Валюка падрыхтаваў**

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Пакуль у міністэрстве думаюць, у Гудзевічах ужо працуюць і рыхтуюцца да міжнароднай выставы

Пакуль міністэрства культуры абмяркоўвае праграму па развіцьцю і захаваньню народнага мастацтва, на месцах ідзе штодзённая праца па адраджэньню старажытнага народнага рамяства. Есьць яшчэ і на Гарадзеншчыне куточкі, дзе намаганьнямі энтузіястаў — людзей па-сапраўднаму ўлюблёных у родную спадчыну, нешта робіцца.

Адно з такіх месцаў добра вядомае ў рэспубліцы — вёска Гудзевічы, што на Мастоўшчыне. Больш за дваццаць гадоў вучыць тут падлеткаў народнаму ткацтву Вера Ігнатаўна Белакоз. Яшчэ з пасьляваенных часоў да ткацтва тут далучылі вясковых дзяўчат. У 60-я гады сытуацыя значна зьмянілася — фабрычныя вырабы пачалі паступова выцясняць хатнія рамёствы. Але Вера Ігнатаўна не здавалася — верыла ў сваю справу. У гуртку стварылася асяроддзе, ў якім панавала павага да свайго, беларускага. Вучні пачалі вялікую перапіску з выдатнымі дзеячамі, Гарадзенскага краю — літаратарамі, мастакамі, этнографамі. Пачэсным наведвальнікам, гасьцям музэя заўсёды ўручалі дарагі падарунак — гальштук • ці пояс з традыцыйным арнамэнтам.

Тры гады таму Вера Ігнатаўна вырашыла засвоіць тэхніку падвойнага ткацтва, каб потым перадаць вучням сваё ўменьне. Справа гэтая аказалася даволі складаная, бо калі на Беласточчыне цэлыя вёскі шчыруюць над выпрацоўкай тэхналёгіі так званых «падвойных» габэленаў, то ў нашай вобласьці адна толькі бабуля Ядзвіга Райская з Адэльска Гарадзенскага раёна не забыла як робяць такія дываны. У Гудзевічах вырашылі запрасіць не спэцыяліста-тэарэтыка, а менавіта яе, каб навучыла ткаць. Праз пэўны час Вера Ігнатаўна добра ведала тэхніку выканання падвойных дываноў, галоўная чароўнасьць якіх заключалася ў тым, што выраб атрымліваецца дзьвухасноўным і дзьвухкамэрным. Напрыклад, з аднаго боку чырвоны з чорнымі кветкамі, з другога — чорны з чырвонымі кветкамі.



У творчасьці гудзевіцкіх ткачых зьявіліся нават свае сакрэты, як у кожнай сапраўднай майстэрні. Дапамагаюць у працы В. Белакоз музэйныя супрацоўнікі — Кібік Валянціна Міхайлаўна і Лявусік Ніна Уладзіміраўна, а таксама Гуртавая Вольга Віктараўна. Зроблена ўжо нямала: набылі гудзевіцкія падвойныя дываны Гарадзенскі гісторыка-архіэалігічны музэй, вабласны палац дзіцячай і юнацкай творчасьці; да Францыі, ў горад Лімож адправілі самаробныя фартухі і посьцілкі. Зараз у Менску рыхтуецца міжнародная выстава і канфэрэнцыя пад назовам «Падвойныя дываны», ў рабоце якой прыме ўдзел В. І. Белакоз.

Амаль што кожны дзень, калі канчаюцца заняткі ў школе, бягуць дзяўчынкі ў гурток, каб вучыцца надалей ткацтву. Як і папярэднія пакаленьні вучаніц, пачынаюць яны з гальштукаў і паясоў. Есьць сярод іх адзін хлопчык — адзінаццацігадовы Андрэй Сівук, які захапляецца старажытным рамяством.

Алена ХРАМКОВА.

**НА ФОТАЗДЫМКУ (зьлева направа): Тацьцяна Гучай, Ніна Лявусік, Вольга Сабірава, кіраўніца гуртка В. І. БЕЛАКОЗ, Наташа Дзямбіцкая, Валянціна Кібік, Сьвета Сівук, Тацьцяна Сабірава.**

**Фатаграфаваў С. МАЛОЙКА.**

